# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 7 (66) Чэрвень 2012 г.

## Правасудзьдзе па-віцебску: Судзьдзя “заслухала” заяўніка ў яго адсутнасьць



Пятро Сарапеня

Суды не задаволілі скаргаў віцебскага сябра КХП-БНФ Пятра Сарапені наконт забароны пікетаў. Гэта было б зусім банальнай гісторыяй - апошнімі гадамі суды Віцебшчыны разгледзелі дзясяткі скаргаў грамадзян на забарону ладзіць масавыя мерапрыемствы і ніводнай зь іх не задаволілі, - калі б не адна акалічнасьць: як вынікае з рашэньня аднаго з судоў, судзьдзя прымудрылася ў судовым паседжаньні неяк заслухаць актывіста, хаця на паседжаньні той не прысутнічаў.

Пятро Сарапеня падаваў скаргі ў раённыя суды Віцебску на рашэньні раённых адміністрацыяў Віцебску, якія забаранілі яму зладзіць пікеты. Усяго меркавалася правядзеньне 3-х пікетаў, па адным у кожным з раёнаў Віцебску. Пікеты мелі адбыцца 25 сакавіка, у чарговую гадавіну абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пра тое, што ён ня зможа прыйсьці на прызначанае судовае паседжаньне, Пятро Сарапеня паведаміў загадзя. Актывіст прасіў судзьдзю Першамайскага райсуду Віцебску Алену Шарэц разгледзець справу ў яго адсутнасьць. Судзьдзя так і зрабіла. Наконт прынятага рашэньня стала вядома па атрыманьні рашэньня суду праз пошту.

Дык вось, у гэтым рашэньні, прынятым, дарэчы, “імем Рэспублікі Беларусь”, напісана: “У судовае паседжаньне Сарапеня П. А. не зьявіўся, прасіў разглядаць справу ў яго адсутнасьць”. І ніжэй: “...Заслухаўшы заяўніка, суд лічыць неабходным у задавальненьні скаргі адмовіць”. Пра тое, якім чынам падчас судовага паседжаньня судзьдзя Шарэц здолела “заслухаць” адсутнага заяўніка, самому заяўніку нічога не вядома.

## Адзін зь пікетаў праваабаронцу Паўлу Левінаву ўсё ж дазволілі?

Віцебскі праваабаронца атрымаў адказы на свае заяўкі аб правядзеньні шэрагу адзіночных пікетаў, якія мусілі адбыцца 26 чэрвеня, у Міжнародны дзень барацьбы супраць катаваньняў. Адказы, падпісаныя намесьнікамі кіраўнікоў адміністрацыяў Першамайскага і Кастрычніцкага раёнаў Віцебску, традыцыйныя: у дазволе на правядзеньне пікетаў праваабаронцу адмоўлена. Гэтыя адказы - што таксама традыцыйна - Павал Левінаў мае намер абскардзіць у судзе. Што ж тычыцца адміністрацыі Чыгуначнага раёну, дык яе чыноўнікі даслалі вельмі незвычайную паперу, якая, на думку праваабаронцы, дазваляе яму з чыстым сумленьнем зладзіць пікет, бо забароны на правядзеньне пікету, фактычна, няма.


Павал Левінаў

Справа ў тым, што кіраўнік адміністрацыі Чыгуначнага раёну Віцебску Юры Панфілаў і яго намесьнікі самаўхіліліся ад разгляду заявы праваабаронцы. Забарону на правядзеньне пікету наклала раённая адміністрацыя. Тлумачыць Павал Левінаў: «У адпаведнасьці з Законам “Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь” права забараніць або дазволіць правядзеньне масавага мерапрыемства нададзенае кіраўнікам раённых адміністрацыяў або іх намесьнікам, а не самім адміністрацыям. Такім чынам, лічу, што ў мяне ёсьць усе падставы правесьці ў Чыгуначным раёне заяўлены пікет. Бо ў вызначаным законам парадку ні кіраўнік адміністрацыі раёну, ні ягоныя намесьнікі не забаранілі правядзеньне мерапрыемства. У прававой дзяржаве, якой паводле Канстытуцыі зьяўляецца Рэспубліка Беларусь, дзейнічае прынцып: што не забаронена, тое дазволена».

## Сяргея Каваленку зьмясьцілі ў ШЫЗА



Віцебскі актывіст Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі - БНФ Сяргей Каваленка зьмешчаны ў штрафны ізалятар магілёўскай калёніі № 19. Як паведаміла жонка Каваленкі Алена, яна атрымала ліст ад мужа, датаваны 17 чэрвеня: «У асноўным ён піша пра сямейныя абставіны, але апошні абзац пісаў відавочна ў сьпешцы. Ён вельмі ірваны і няскончаны. У ім ён піша, што ў калёніі яму далі два парушэньні, адміністрацыя пэрсанальна правярае ягоную тумбачку, за ім усталяваны пэрсанальны нагляд, яго не пускаюць на спортпляцоўкі».

«Апрача таго, ад яго ўвесь час патрабуюць напісаць прашэньне аб памілаваньні на імя прэзыдэнта. У канцы ліста ён паведамляе, што ў яго быў толькі што канфлікт з адным са зьняволеных, якога ён лічыць правакатарам, і ня выключыў, што яго зьмесьцяць у штрафны ізалятар», - паведаміла Алена Каваленка. Са сваіх крыніцаў яна даведалася, што муж 18 чэрвеня сапраўды быў зьмешчаны ў штрафны ізалятар на 10 сутак. «З сабой яму не дазволілі ўзяць ані ежы, ані лекаў, ані паперы, ані асадкі», - адзначыла Алена. Акрамя таго, яна паведаміла, што са сьпісу 15-ці неабходных Каваленку лекаў адміністрацыя калёніі дазволіла перадаць яму толькі пяць.

# ПАЛІТВЯЗЕНЬ ІГАР АЛІНЕВІЧ СТАЎ "ЗЛОСНЫМ ПАРУШАЛЬНІКАМ" ТУРЭМНАГА РЭЖЫМУ

Анархіст Ігар Аліневіч стаў «злосным парушальнікам» рэжыму. Пра гэта ён паведаміў у лісьце маці, якое прыйшло 27 чэрвеня. «Зь 19-га чысла я - афіцыйна "злосны парушальнік". Атаварка мне паменшылася і амністыя ня сьвеціць ніяк», - напісаў Ігар. Валянціна Аліневіч: «У канцы траўня была на спатканьні ў сына - ніякіх парушэньняў не было. Ігар стаў апошнім злосным парушальнікам з палітычных».

«Марыне Лобавай кажуць, што Эдзік мала чытае, Коля Дзядок 10 разоў не зашпіліў гузік... Да Ігара пачалі чапляцца: недастаткова чыста паголены, шмат чытае (пасьля адбою). Усё - як ва ўсіх палітвязьняў: атрымалі зьверху загад і пасьля году ідэальных паводзін за пару дзён зрабілі зь Ігара злоснага парушальніка», - тлумачыць сытуацыю маці палітзьняволенага.



«Ігар з Новага году пісаў, што ня верыць ні ў якія амністыі - усё гэта ня больш як палітычныя гульні. Але... "Чым цямней ноч, тым хутчэй сьвітанак. Пра Колю Дзядка ўжо ведаю, у газэце прачытаў пра маму Сашы Малчанава (І. Аліневіч разам з А. Малчанавым і А. Фядутам сядзелі ў СІЗА КДБ). Напішы яму, каб прымаў страту годна - права на слабасьць у бягучай сытуацыі няма"», - цытуе Валянціна Аліневіч сына.

«Усе палітвязьні - гэта ваеннапалонныя ў канцлягеры. На мінулым тыдні мы напісалі ліст начальніку калёніі: чаму няма лістоў ад сына? Паказваем артыкулы Крымінальна-папраўчага кодэксу, згодна зь якімі гэта права кожнага зьняволенага. Начальнік калёніі са спасылкай на тыя самыя артыкулы адказвае: "зь ім праведзеная гутарка аб падтрымцы сваяцкіх сувязяў"», - рэзюмуе Валянціна Аліневіч.

27 чэрвеня каля 22:00 вечара Валянціне Аліневіч патэлефанавала маці Максіма Веткіна і прапанавала... падзяліць штраф, накладзены на ўдзельнікаў нападу на расейскую амбасаду. «Патэлефанавала маці і спытала: колькі мне плаціць, колькі - вам? Я адказала: вы вінаватыя - вы і плаціце, а мы не вінаватыя. Мабыць, адчулі, што могуць трапіць пад амністыю, таму і распачалі такія размовы. Я адказала: мы сядзім... Вы ведаеце, што такое калёнія? Маці Веткіна пытаецца: як вы думаеце, ваш сын выйдзе з калёніі, ці будзе помсьціць майму сыну? І пачала скардзіцца на цяжкае матэрыяльнае становішча. Вось ужо сапраўды: каму - вайна, а каму маці родная», - абураная Валянціна Аліневіч.

Максім Веткін, на паказаньнях якога будуецца ўвесь абвінаваўчы прысуд Ігару Аліневічу, сам асуджаны на чатыры гады «хіміі». Дзякуючы «супрацы са сьледзтвам» і абмовам Ігара Аліневіча яму зьмякчылі меру пакараньня: апошняму далі восем гадоў, М. Веткіну - 4 гады «хіміі». Але, як высьветлілася, нават «хімію» Максім Веткін не адбывае: свабодна разгульвае па горадзе.

«Чалавека, "дзякуючы" якому Ігара асудзілі на 8 гадоў, асудзілі на 4 гады "хіміі". Але Максім Веткін нават "хімію" не адбывае, а знаходзіцца на волі. Гэта не мае здагадкі - гэта спраўджаная інфармацыя. Паказаньні гэтага Веткіна, якога прызналі вінаватым у нападзе на расейскую амбасаду, і сталі асновай абвінаваўчага прысуду. І гэты самы Веткін павінен кампэнсаваць кошт спаленай машыны, як і мой сын. Зь Ігара патрабуюць кампэнсаваць шкоду, зь Веткіна - не», - заявіла Валянціна Аліневіч.

27 траўня 2011 году судзьдзя Заводзкага раёну Менску Жанна Хвайніцкая асудзіла Ігара Аліневіча на 8 гадоў пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцненага рэжыму. Цяпер ён адбывае пакараньне ў Наваполацкай калёніі № 10. Праваабаронцы прызналі яго, Мікалая Дзядка і Аляксандра Францкевіча палітычнымі вязьнямі.

# Ян Дзяржаўцаў просіць прыцягнуць да адказнасьці кіраўнікоў раённых адміністрацыяў Віцебску

Сябра КХП-БНФ Ян Дзяржаўцаў накіраваў ў Віцебскі гарвыканкам скаргу на неналежную работу са зваротамі грамадзян кіраўнікоў адміністрацыяў Кастрычніцкага, Чыгуначнага і Першамайскага раёнаў Віцебску. Палітык лічыць, што згаданыя чыноўнікі парушылі парадак разгляду ягоных зваротаў і таму ў сваёй скарзе просіць прыцягнуць іх да адказнасьці ў адпаведнасьці з заканадаўствам.

«6 красавіка я зьвярнуўся да кіраўнікоў адміністрацыяў раёнаў з прапановай узяць удзел у масавым мерапрыемстве - пікетаваньні. Аднак у парушэньне закону "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб" на мае звароты не далі адпаведных адказаў», - паведамляе Ян Дзяржаўцаў.

Шэраг пікетаў, да ўдзелу ў якіх апазыцыйны актывіст запрашаў прадстаўнікоў уладаў, мусіў адбыцца ў гадавіну чарнобыльскай трагедыі - 26 красавіка. Калі б раённыя кіраўнікі адгукнуліся б на запрашэньне, пікеты не падпадалі б пад патрабаваньне пункту 3 рашэньня гарвыканкаму № 881 ад 10 ліпеня 2009 г., згодна зь якім у выпадках, калі арганізацыя масавага мерапрыемства адбываецца без удзелу ворганаў дзяржаўнай улады, яго арганізатары павінны прыкласьці да заявы аб правядзеньні мерапрыемства дамовы з УУС Віцаблвыканкаму або РАУС, з гарадзкой цэнтральнай паліклінікай і з прадпрыемствам «Віцебская гарадзкая жыльлёва-камунальная гаспадарка».

Менавіта адсутнасьць такіх дамоваў, якія згаданыя ўстановы, як правіла, адмаўляюцца заключаць з арганізатарамі меркаваных масавых мерапрыемстваў, дае раз-пораз уладам фармальную падставу для забароны непажаданых мерапрыемстваў. З 2009 году - з моманту, калі было прынятае рашэньне № 881 - прадстаўнікі апазыцыйных партыяў і рухаў, праваабаронцы і грамадзянскія актывісты ня здолелі зладзіць ніводнай дазволенай уладамі акцыі ў Віцебску.

Менавіта з прычыны невыкананьня патрабаваньня пункту 3 рашэньня № 881 былі забароненыя пікеты і гэтым разам. Улады вырашылі дзейнічаць паводле звыклай для іх схемы. Таму, відаць, і пайшлі на парушэньне закону, праігнараваўшы прапанову актывіста КХП-БНФ, якая ня ўпісваецца ў гэтую схему.



«Лічу, што сваёй бязьдзейнасьцю кіраўнікі адміністрацыяў Кастрычніцкага, Чыгуначнага і Першамайскага раёнаў Віцебску пазбавілі мяне права на свабоду выказваньня сваёй думкі падчас пікетаваньня і на свабоду сходаў. А гэтыя грамадзянскія і палітычныя правы гарантаваныя дзеючай Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь», - сьцьвярджае Ян Дзяржаўцаў.

# Віцебскага апазыцыянэра пераконваюць у тым, нібыта ён вар'ят



Аляксандар Кірылаў

Пасьля таго, як на запатрабаваньне ўладаў аднаго з заснавальнікаў Беларускай Кансэрватыўнай партыі "Белая Русь" Аляксандра Кірылава выклікалі ў Віцебскі абласны клінічны цэнтар псыхіятрыі і наркалёгіі для «вырашэньня пытаньня аб аказаньні спэцыялізаванай мэдычнай дапамогі», ён зьвярнуўся па тлумачэньні ў міністэрства аховы здароўя. Бо ў ніякай дапамозе з боку згаданай установы аховы здароўя ён ня мае патрэбы, ніколі ня меў псыхічных захворваньняў і ніколі не стаяў на ўліку ў псыхіятраў. Тым больш, няма ніякай пастановы суду аб яго прымусовым лячэньні. Надоечы палітык атрымаў адказ на свой зварот у мінздраў, які вельмі зьдзівіў яго.

Зь ліста за подпісам першага намесьніка міністра аховы здароўя Дзьмітрыя Піневіча вынікае, што Аляксандар Кірылаў 21 ліпеня 2011 году «самастойна зьвярнуўся на прыём ва УАЗ "Віцебскі абласны клінічны цэнтар псыхіятрыі і наркалёгіі"... Па выніках мэдычнага агляду і псыхалягічнага дасьледаваньня быў пастаўлены дыягназ "псыханэўратычны разлад асобы"». У ліпені 2011 году палітык, сапраўды, зьвяртаўся ў лякарню - з мэтай атрыманьня стандартнай даведкі пра стан здароўя, неабходнай для ўладкаваньня на працу. І тады ніякіх захворваньняў псыхіятры ў яго ня выявілі. Пра гэта яму выдалі адпаведную даведку. Адкуль цяпер, без ніякіх дадатковых мэдычных аглядаў, зьявіўся дыягназ пра разлад асобы - можна толькі здагадвацца. Таксама як можна толькі здагадвацца, ці намесьнік міністра аховы здароўя «паставіў» дыягназ апазыцыянэру зь нейкай памылкі, або гэта прыкмета адраджэньня ў Беларусі карнай псыхіятрыі, якая, як вядома, шырока практыкавалася за часамі Савецкага Саюзу.



Приложение 1
к постановлению
Министерства здравоохранения
Республики Беларусь
09.07.2010 г. №92
Форма № 1 здр/у-10

МЕДИЦИНСКАЯ СПРАВКА
о состоянии здоровья

Дана ____ (фамилия, собственное имя, отчество)

Дата рождения 1984 (число, месяц, год) Пол: мужской / женский (подчеркнуть).

Место жительства г. Витебск

Цель выдачи справки

Перенесенные заболевания (иные анамнестические сведения)

Дополнительные медицинские сведения (результаты медицинских осмотров, обследований, сведения о прививках и прочее)

УЗ "ВОПНД"
Осмотр психиатра нарколога

Заключение

Рекомендации

# Распаўсюдніка “Віцебскага кур’ера” пакаралі штрафам



Сяргей Кандакоў

6 чэрвеня ў Кастрычніцкім райсудзе Віцебску разглядалася справа Сяргея Кандакова. Яго судзілі на падставе пратаколу, складзенага 2 траўня міліцыянтамі за 18 асобнікаў зарэгістраванай у Смаленску газэты «Віцебскі кур'ер», якія ён зьбіраўся парасклaдваць па паштовых скрынках. Судзьдзя Іна Грабоўская прызнала распаўсюдніка недзяржаўнай прэсы вінаватым у парушэньні часткі 2 артыкулу 22.9 кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях («незаконны распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі») і прысудзіла яму штраф у памеры 20 базавых велічынь.

Сяргей Кандакоў мае намер абскардзіць рашэньне судзьдзі Грабоўскай. На яго думку, гэтае рашэньне зьяўляецца незаконным. «Я лічу несправядлівым, што ў Расеі дазволеныя беларускія газэты, а ў Беларусі расейскія - не, - кажа распаўсюднік “Віцебскага кур'ера". - У мяне пэнсія 680 тысяч. Гэтыя 20 мінімалак (2 мільёны рублёў) мне ўсё жыцьцё прыйдзецца плаціць. Я што, мушу памерці з голаду?» - абураецца Сяргей Кандакоў прысудам.

# За распаўсюд улётак з заклікам да байкоту выбараў Алене Семенчуковай пагражае штраф або арышт



30 чэрвеня ў судзе Кастрычніцкага раёну Віцебску распачаўся разгляд справы Алены Семенчуковай. Актывістку “Эўрапейскай Беларусі" абвінавачваюць ў правапарушэньні, прадугледжаным артыкулам 23.34 адміністрацыйнага кодэксу, - “парушэньне парадку арганізацыі або правядзеньня масавых мерапрыемстваў". Яе судзяць паводле часткі 3 згаданага артыкулу КаАП, згодна зь якой за парушэньне правядзеньня масавага мерапрыемства, зьдзейсьненае паўторна цягам году, актывістцы пагражае штраф у памеры ад 20-ці да 50-ці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.

Суд распачаўся а 10:00, але празь некаторы час быў перапынены. Судзьдзя Іна Грабоўская вырашыла, што міліцыянты, якія затрымлівалі актывістку, нешта наблыталі ў дакумэнтах, падрыхтаваных для суду, і адправіла справу на дапрацоўку. Пакуль міліцыянты “дапрацоўвалі" паперы, Алену Семенчукову трымалі ў РАУС Кастрычніцкага раёну. Адтуль пасьля абеду яе зноў прывезьлі ў суд, і працэс аднавіўся. Другое цягам дня судовае паседжаньне доўжылася нядоўга - дзяўчына заявіла хадайніцтва аб прыцягненьні да ўдзелу ў працэсе абаронцы, судзьдзя вырашыла хадайніцтва задаволіць і абвясьціла перапынак. Працяг разгляду справы прызначаны на 15:00 5 ліпеня.

Алена Семенчукова была затрыманая супрацоўнікамі міліцыі напярэдадні раніцай. Разам зь ёй затрымалі і ейнага брата Сяргея. Маладзёны распаўсюджвалі сярод мінакоў улёткі з заклікам байкатаваць маючыя адбыцца парлямэнцкія выбары. Распаўсюд агітацыйных матэрыялаў міліцыянты палічылі парушэньнем заканадаўства аб масавых мерапрыемствах - брата і сястру даставілі ў Кастрычніцкі РАУС, склалі адпаведны пратакол. Пазьней Сяргей, які зьяўляецца непаўнагадовым, быў адпушчаны дадому. Алену ж пратрымалі ў пастарунку да вечара, потым адвезьлі ў ізалятар часовага ўтрыманьня, дзе ў адзіночнай камэры яна мусіла правесьці ноч, і адкуль нараніцы яе даставілі ў храм правасудзьдзя.



Сёлета Алена Семенчукова ўжо прызнавалася судом вінаватай ва ўдзеле ў несанкцыянаванай уладамі акцыі. 20 сакавіка за плякат “Свабоду Сяргею Каваленку!", зь якім яна стаяла ў цэнтры Віцебску, судзьдзя Чыгуначнага райсуду Віцебску Алена Цыганкова пакарала актывістку “Эўрапейскай Беларусі" штрафам у памеры 5-ці базавых велічынь. Пазьней Віцебскі абласны суд, разгледзеўшы касацыйную скаргу, пададзеную Аленай Семенчуковай, зьменшыў суму штрафу ў дзесяць разоў.



Бюлетэнь “За правы чалавека” выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.